**№61 (1624)**
Пятніца, 4 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень чакаецца: у Мінску — +1...+3, уначы — -4...-6, у Віцебску — 0...+2, уначы — -3...-5, у Брэсце — +4...+6, уначы — -1...-3, у Гомелі — +5...+7, уначы — -1...-3, у Гродне — +4...+6, уначы — -1...-3, у Магілёве — +1...+3, уначы — -3...-5. Па ўсёй тэрыторыі краіны воблачна. У Мінскай, Віцебскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцях без ападкаў, у Гомельскай — дождж, у Магілёўскай — снег. Вецер паўночна-заходні, 2–5 м/с.

*www.meteo.by*

Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
(017) 209-45-45
(017) 209-45-55

## Долой тиранов!

14 активистов незарегистрированного движения "ЗУБР" провели вчера в Минске возле американского посольства акцию "Долой тиранов!".

"Зубры" заявили о своей поддержке усилий международной коалиции по освобождению иракского народа от диктатуры. Участники акции держали в руках плакаты на белорусском, английском и русском языках: "Хусейн должен уйти!", "Долой тиранию!", "Америка, мы с тобой!", "Свободу Ираку!".

По окончании акции большинство ее участников были задержаны сотрудниками спецслужб и милиции. Следует заметить, что участников акции и журналистов задерживали не возле посольства США, а в других районах города. Увозили людей на микроавтобусе с номером 9594 РН и автомобиле ВАЗ-2109 с номером 7004 РН.

**www.charter97.org**

## Больше половины опрошенных не определились...

"За кого Вы отдали бы свой голос, если бы сегодня в Беларуси проходили президентские выборы?" — с таким вопросом обратились к жителям города Минска социологи службы "Зеркало" информационной компании БелаПАН в ходе опроса, проведенного 28—30 марта текущего года.

12 процентов респондентов заявили, что готовы отдать свои голоса Александру Лукашенко (для сравнения: в ноябре 2002 года таковых насчитывалось 10 процентов). 1 процент опрошенных предложил кандидатуру Владимира Гончарика — бывшего председателя Федерации профсоюзов Беларуси, единого кандидата от демократических сил на последних президентских выборах. И около 1 процента избирателей готовы проголосовать за лидера Либерально-демократической партии Сергея Гайдукевича. Кандидатуры других возможных претендентов на пост президента Беларуси в анкету вписывались реже.

По 10 процентов опрошенных минчан в случае президентских выборов готовы голосовать против всех кандидатов или вообще не идти на выборы. 3 процента респондентов пошли бы на выборы с целью испортить бюллетень. Большинство же избирателей (61 процент) не дали содержательных ответов на предложенный вопрос.

Для сравнения: рейтинг доверия президента России Владимира Путина, по данным мартовского экспресс-опроса Всероссийского центра изучения общественного мнения, проведенного среди граждан России, составил 51 процент.

**Леонид МИХЕЙЧИКОВ.**

## Жонкі дыпламатаў упадабалі Оршу

Зноў, ужо ў другі раз, жонкі акрэдытаваных у Беларусі замежных дыпламатаў наведалі Оршу.

Трывалая цікавасць свецкіх дам да сціплага горада на Дняпры тлумачыцца не толькі традыцыйнай гасціннасцю нашай правінцыі, але і жаданнем іншаземак танна набыць прыгожыя і дабротныя вырабы аршанскіх прамысловых прадпрыемстваў, якіх за межамі Беларусі амаль няма.

Для жонак дыпламатаў арганізавалі дэманстрацыю адзення з тканін Аршанскага льнокамбіната. Частка мадэляў была хутка раскуплена высокімі госцямі.

Не з пустымі рукамі супругі дыпламатаў пакінулі і яшчэ дзве выставы: гарадскога Дома рамёстваў і фабрыкі мастацкіх вырабаў.

Каб неяк збалансаваць практычныя межы візіту з духоўнымі патрэбамі, жонкі дыпламатаў наведалі і музей У.Караткевіча.

## Фальсіфікацыя на ніве адукацыі

Абурэнне напалам са здзіўленнем выклікала ў рэвізораў Камітэта дзяржкантролю праверка фінансава-гаспадарчай дзейнасці аддзела адукацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска. Некаторыя структурныя падраздзяленні гэтага ведамства аказаліся ўяўнымі, існавалі толькі на паперы. Затое грашовыя выдаткі на іх утрыманне былі цалкам рэальнымі.

Кантралёрам не ўдалося адшукаць Цэнтр пазашкольнай работы і Дом піянераў, хоць яны, мяркуючы па дакументах, не толькі існавалі, але дзейнічалі і патрабавалі рэгулярнага фінансавання. Да прыкладу, на рамонт уяўнага Дома піянераў было адпушчана у 3,4 раза больш грошай, чым планавалася. Каб знайсці сродкі на гэты "ўмоўны" рамонт, аддзел адукацыі нават атрымаў крэдыт, з-за чаго ўтварылася вялікая запазыка. А каб пакрыць яе, кіраўніцтва аддзела неабгрунтавана завышала цэны за наведванне платных дзіцячых гурткоў.

Сабраныя з гурткоўцаў грошы пайшлі няведама куды, бо ў бухгалтарскіх дакументах адлюстроўваліся няпэўна. Кантралёры выявілі шмат розных фінансавых парушэнняў. У прыватнасці, зарплата, прызначаная кіраўніку аднаго гуртка, выдавалася іншаму супрацоўніку Дома піянераў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**ВОСТРЫ ПОГЛЯД**

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Вайна



*Ёсць некалькі прычын вайны Амерыкі на Блізкім Усходзе. Першая — гэта стварэнне дзяржавы Ізраіль і палестына-ізраільскі канфлікт (шырэй — араба-ізраільскі канфлікт). Другая — нафта. Трэцяя — галоўная, якая вынікае з першых дзвюх, — гэта непасрэдная пагроза Злучаным Штатам, развязванне радыкальнымі групамі мусульманскага свету міжнароднай партызанска-тэрарыстычнай вайны супраць Амерыкі.*

Пасля 11 верасня 2001 года (нападу тэрарыстаў-смертнікаў на Вашынгтон і Нью-Йорк і разбурэнне Сусветнага гандлёвага цэнтра) стала зразумела, што вайна Амерыкі на Блізкім Усходзе практычна непазбежная — дзеля прадухілення эскалацыі тэрарыстычнай вайны. Амерыка зразумела, што толькі сродкамі аховы, стрымлівання і абароны яна не зможа доўга і паспяхова супрацьстаяць партызанскаму тэрарызму радыкальных ісламістаў. Яна можа пацярпець у гэтай вайне, як толькі нябачны праціўнік атрымае ў свае рукі зброю масавага знішчэння. Стала зразумела, што калі не прыняць хутка рашучых мер, то нябачныя ворагі Амерыкі завалодаюць гэтай зброяй.

Знішчэнне партызанскага тэрарызму радыкальных ісламістаў Усходу і ліквідацыя пагрозы амерыканскай дзяржаве ёсць жыццёвай неабходнасцю Амерыкі. Не кажам ужо пра тое, што пастаянныя абарончыя меры каштуюць дорага і не гарантуюць ад ахвяр.

Першым чынам трэба было ліквідаваць асяродкі тэрарызму і рэжымы, якія маглі стаць базай для тэрарызму і крыніцай атрымання зброі масавага знішчэння.

З гэтай нагоды адбылася вайна з талібамі ў Афганістане. Менавіта гэта з'явілася галоўнай прычынай пачатку вайны ў Іраку (фармальна — як працяг нафтавай кувейцкай кампаніі, якую праводзіў старэйшы Буш).

Трэба ўлічыць, што Ірак не ёсць тэакратычная ісламісцкая дзяржава. Гэта ў цэлым — свецкая краіна з даволі развітай навукай і з самымі перадавымі універсітэтамі на Блізкім Усходзе (Багдад). Ірак мае інтэлектуальныя магчымасці стварыць зброю масавага знішчэння. Тым часам дыктатура Садама Хусейна — адна з самых жорсткіх у свеце. Усёпаглынаючы страх — такая пануючая атмасфера ў іракскім грамадстве.

Усе гэтыя чыннікі плюс антыамерыканізм Хусейна і стан фактычнай вайны з Амерыкай рабілі збройную інвазію ЗША ў Ірак практычна неўнікнёнай. (Няма таксама гарантый несупрацоўніцтва Аль-Каеды з Хусейнам.) Амерыка па-амерыканску рэагавала на рэальную пагрозу сваёй бяспецы.

Такая сутнасць справы. І менавіта таму прэзідэнт ЗША адзначыў, што для ваенных дзеянняў супраць рэжыму Садама Хусейна ЗША не маюць патрэбы ў згодзе Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і Савета Бяспекі ААН.

Пазіцыя Заходняй Еўропы ў гэтай вайне — тыповая для еўрапейскага палітычнага філісцерства. (Успомнім пазіцыю Чэмберлена ў дачыненнях з Гітлерам, здачу Чэхаславаччыны, Аўстрыі, Польшчы і г.д.) Гэта паводзіны нікчэмных палітыкаў, схаваныя за нібыта "гуманнай" пацыфісцкай дэмагогіяй і подлай інфармацыйнай прапагандай.

Менавіта гэтая, прымітыўна праўдападобная прапаганда Францыі і Нямеччыны (перш за ўсё) выклікала на вуліцы антываенныя шматтысячныя натоўпы абывацеляў, якім раптам стала шкада мірных іракцаў. Пры гэтым, калі адбываўся генацыд у Чэчні і рускае тэрарыстычнае войска вынішчала там мірнае насельніцтва, тады нешта не відаць было гэтых "міралюбівых" натоўпаў, нягледзячы, што і чэчэнцы, і ўсе сумленныя людзі пастаянна даводзілі інфармацыю пра генацыд у Чэчні да сусветнай грамадскасці, а ўрады ЗША і Заходняй Еўропы проста кінулі, прадалі чэчэнцаў дзеля прагматычных інтарэсаў з Расіяй. Цяпер гэтыя ахвяры масавай прапаганды пад лямант з Парыжа і Берліна масава выяўляюць сваю нянавісць да Амерыкі (якой, дарэчы, абавязаны і сваім еўрапейскім мірам, і сваім мяшчанскім дабрабытам. Я маю на ўвазе канец Другой сусветнай вайны, план Маршала, НАТО, перамогу ў "халоднай вайне" і г.д.). Нават расійскі прэзідэнт Пуцін — спраўца масавых забойстваў чэчэнцаў (і няверны прыяцель Амерыкі) — выступіў у абарону Садама Хусейна, праліваючы кракадзілавыя слёзы па ахвярах вайны. (Ужо хто б што казаў пра ахвяры і "права сілы" — толькі не Пуцін.)

І немцы, і французы, і расійцы шмат уклалі сродкаў у іракскую нафту і эканоміку. (Якія там "ідэі", "гуманізм", "дэмакратыя"! Кожны ратуе свае грошы.) Ініцыятыва амерыканцаў падважыла б валюту "еўра" і саму ідэю пабудовы новай суперімперыі ў Еўропе (так званы Еўрасаюз). І раптам гэтак усё агалілася, фактычна раскалолася НАТО, а Францыя, Нямеччына, Бельгія, Люксембург збіраюцца арганізаваць свой ваенны блок, сваю "абарону Еўропы". Тут жа стварылася вось Парыж—Берлін—Масква, пачалося амаль непрыхаванае дамаўленне пра новы перадзел Еўропы на "сферы ўплыву" (гаворка ідзе перш за ўсё пра Беларусь, Украіну і Польшчу, краіны Балтыі, былую Усходнюю Прусію — цяперашнюю Калінінградскую вобласць).

Як бачым, усё — у каторы раз у гісторыі — паўтараецца. Як толькі аб'ядноўваюцца Парыж—Берлін з Масквой — акупацыя, анексія, аншлюс, вайна не за гарамі. Усё гэта ў Еўропе ўжо праходзілі. Выступленне ж супраць Амерыкі — гэта самае горшае, да чаго маглі дадумацца цяперашнія ўрады Еўропы.

Характар цяперашняй амерыканскай вайны на Блізкім Усходзе — зусім іншы, чым папярэдні. Дзеянне разгортваецца паволі, на выбраных тэрыторыях, авіяналёты не носяць масавага характару, усё накіравана на як найменшыя страты цывільнага насельніцтва. Тым часам (на першы погляд парадокс) прыхільнікі Хусейна, на баку якіх быццам бы маральнае права абароны радзімы, самі страляюць у сваіх мірных уцекачоў і правакуюць ахвяры насельніцтва, каб паказаць па тэлебачанні і выставіць у дрэнным выглядзе амерыканцаў ды выклікаць да сябе спачуванне ў свеце. Вайна — не толькі крывавая, але і брудная справа.

Як мы, беларусы, павінны адносіцца да гэтай вайны?

Ва ўсіх войнах церпяць нявінныя мірныя людзі. Гэта ёсць найгоршы бок вайны. Таму за вайной павінен быць міжнародны кантроль, дапамога пацярпелым і мірнаму насельніцтву. Мы не павінны заставацца ў баку ад агульналюдскай салідарнасці і дапамогі людзям.

Што датычыць самога канфлікту. Мы не мусім у ім удзельнічаць ні ў якой форме. Але мы павінны ведаць, што ў нашых беларускіх інтарэсах, каб Амерыка як найхутчэй пераможна закончыла вайну. У гэтым сэнсе нам трэба прызнаць рацыю амерыканскага боку, зразумець амерыканскае бачанне будучыні ў інтарэсах не толькі Амерыкі, але і ўсяго цывілізаванага свету. У тым ліку — і незалежнага Ірака.

Пазыцыя немцаў і расійцаў — галоўных ворагаў нашай беларускай незалежнасці — тут вядомая. Але звернем увагу на выказванні цяперашніх расійскіх думальнікаў і палітыкаў. Яны кажуць, што ў іхных расійскіх інтарэсах — паражэнне і кампраметацыя Амерыкі. І тлумачаць, што параза ў вайне, аслабленне і зніжэнне ўплыву Амерыкі павялічыла б сусветную цану на нафту (якая ўжо некалькі гадоў і так высокая). Гэта дало б Расіі (якая прадае нафту і газ) велізарныя барышы, якія можна было б часткова накіраваць на дадушэнне Чэчні і захоп Беларусі ды прыцiснуць Украіну і ўплываць на палітычныя стасункі ў Еўропе, закончыць яе перадзел на сферы ўплыву і паставіць нагу на Блізкім Усходзе. Такую выснову можна зрабіць з выказванняў некаторых рускіх аналітыкаў.

Пры ўсіх недахопах, "русацяпстве" і супярэчнасцях амерыканскай палітыкі не забывайма, што Амерыка ёсць практычна адзіным гарантам (бо куды Амерыка — туды і Вялікабрытанія) нашай беларускай незалежнасці, яна схільная рэальна дапамагчы беларусам, была б толькі на гэта беларуская воля і беларуская сіла.

Мяркую, кожны разумее, што калі скончыцца агрэсіўная дыктатура Хусейна і амерыканцы прыстойна перамогуць, то рэжым прамаскоўскай сатрапіі на Беларусі адчуе сябе няўтульна, а расійскія шавіністы ў Маскве паўстрымаюць свой агрэсіўны імпэт. Гэта дасць шанцы беларусам хутчэй скончыць з сатрапіяй, абараніць незалежнасць і па-людску загаспадараваць сваю Бацькаўшчыну, спрыяльна для ўсіх людзей.

* * *

Тут мушу яшчэ парушыць вельмі істотны для нас, беларусаў, светапоглядны і псіхалагічны аспект, паколькі наша цяперашняе грамадства сілком спынілі ў паняццях савецкай сістэмы. Савецкая ідэалогія ўлады трымалася на вайне. У 1920—1930-х гадах — на псіхозе "дзейнасці" знешніх і ўнутраных "ворагаў" і варожых падкопаў буржуазных імперыялістаў, гатовых шкодзіць і напасці на СССР. Пасля вайны гэтая палітыка будавалася на гіпертрафіраванай, аднабокай і перакручанай памяці пра жахі вайны, якія ўзводзіліся ў паралізуючы пачварны культ сістэмнай ідэалогіі страху перад вайной.

Амаль 50 гадоў савецкая сістэма выкарыстоўвала цярпенні і пакуты людзей за часы Другой сусветнай вайны дзеля апраўдання ўсіх сваіх недахопаў, рэпрэсій, эксплуатацыі і паразітызму, уціску і няўдач. Ідэалогія канцэнтравалася ў формуле: "галоўнае, каб не было вайны". Альтэрнатывай каланіяльнаму саветызму і сацыялізму выстаўлялася вайна. Таму трэба было цярпець і з усёй мярзотай пагаджацца, "абы вайны не было".

На гэтым ідэйна-псіхалагічным збачэнстве і страху запалоханых людзей 46 гадоў трымаўся Савецкі Саюз, і гэтая прапаганда, гэты бяздумны жах перад вайной увайшлі ў жылы і кроў савецкага чалавека.

Але элементарны здаровы сэнс падказвае, што трэба баяцца не вайны, а рабства; што ёсць каштоўнасці і з'явы, даражэйшыя за жыццё. І гэта даказваецца ўсёй духоўнай і экзістэнцыяльнай гісторыяй чалавецтва.

Войны бываюць розныя. Мала хто здолеў дасягнуць незалежнасці і свабоды без пакут, ахвяр, барацьбы і вайны (хоць кожны хацеў бы мірнага самавызначэння). І нікому не ўдалося засцерагчыся ад агрэсіі, не супраціўляючыся.

Пагроза нашай незалежнасці — гэта палітычная рэчаіснасць цяперашняга часу. І як бы ні развіваўся маскоўскі акупацыйны сцэнар на Беларусі, рашаючае слова застанецца за беларусамі. Як, якім чынам яно будзе сказана — ці па сістэме "абы вайны не было", ці на ўзроўні "акупанты, прэч!", ці ў перакананні "Бацькаўшчына — альбо смерць!" — ад гэтага ў канцавым выпадку будзе залежаць і наша будучыня.

# Багданкевіч пайшоў у нэпманы

## А Марыніч лічыць, што трэба збіраць металалом

**Ганаровы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, экс-лідэр Нацбанка Станіслаў Багданкевіч упэўнены, што "нашай краіне востра патрэбен запуск новай эканамічнай палітыкі" (НЭП), для таго каб пазбегнуць канчатковага краху прадпрыемстваў усіх форм уласнасці ў бліжэйшы час. Такое меркаванне ён выказаў падчас навукова-практычнай канферэнцыі "Беларусь — погляд у будучыню", якую днямі ладзіў у Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры (ММАЦ) беларуска-расійскі фонд "За новую Беларусь".**

Станіслаў Багданкевіч лічыць, што ў Беларусі зараз каля 70% прадпрыемстваў — стратныя, рэальнае падзенне паказчыкаў нацыянальнага прадукту за мінулы год склала каля 14 мільярдаў долараў. А афіцыйныя лічбы, кажа Багданкевіч, якімі так любяць хваліцца ўлады, адлюстроўваюць перш за ўсё паказчыкі вытворчасці прадукцыі, вялікая частка якой пыліцца на складах. Экс-банкір канстатуе, што за мінулы год толькі ў якасці штрафаў, пені і рознага кшталту канфіскацыйных мерапрыемстваў дзяржава адабрала ў насельніцтва каля 60 мільёнаў долараў. *"Ці можна будаваць сацыяльны дабрабыт у краіне на штрафах і іншых санкцыях?"* — абураецца прафесар.

Згодна з меркаваннем "нэпмана" Багданкевіча, у краіне беспадстаўна знішчаецца малы бізнес: *"Трэба індывідуальных прадпрымальнікаў, наадварот, заахвочваць да эфектыўнай працы, а не душыць падаткамі і штрафамі, ці, іншымі словамі, рэзаць курыцу, якая нясе залатыя яйкі"*. Прафесар прывёў лічбы, згодна з якімі ў ЗША, напрыклад, доля малога і сярэдняга бізнесу (МСП) у эканоміцы складае больш за 50%, у краінах Еўрапейскага Саюза — 60%, доля працуючых у МСП у ЗША зноў-такі болей за 50%, у ЕС — 70%, у Японіі — 75%, а бюджэт Масквы на 30% складаецца з паступленняў ад малога і сярэдняга бізнесу. На думку Станіслава Антонавіча, нам трэба *"тэрмінова пераняць вопыт Эстоніі, Польшчы, Славеніі і Чэхіі, галоўным зместам рэформ у якіх стала падтрымка менавіта малога і сярэдняга бізнесу"*. А пачынаць трэба з таго, што *"перайсці на заяўны прынцып рэгістрацыі МСП, адмяняючы большасць ліцэнзій, а таксама значна скараціць чыноўніцкі апарат"*.

Другі ўдзельнік канферэнцыі — **Васіль Шлындзікаў**, прэзідэнт "Асацыяцыі садзеяння эканамічнаму развіццю", прыдумаў вельмі забаўны тэрмін, сказаўшы, што "калі бізнес у нашай краіне не "дахуецца" ўладамі (маецца на ўвазе — не мае калякрымінальнага даху), то ён не мае шанцаў выжыць". Што праўда, то праўда!

Як сапраўдны дэмакрат выглядаў на форуме лідэр Партыі камуністаў Беларускай **Сяргей Калякін**, які выказаўся пра тое, што без палітычных рэформ аніякія эканамічныя зрухі немагчымы, а таксама эмацыянальна адзначыў: *"Недастаткова змяніць адну палітычную волю на іншую, трэба мяняць усю сістэму"*. Не забыўся Сяргей Іванавіч і пра індывідуальных прадпрымальнікаў: *"Малы бізнес трэба развіваць таму, што яго праца перш за ўсё азначае стварэнне новых працоўных месцаў"*. Пасля гэтых слоў я прапанаваў Станіславу Багданкевічу, які сядзеў побач, прыняць Сяргея Калякіна ў АГП.

Падтрымаў агульны настрой дыскусіі былы кандыдат у прэзідэнты **Міхаіл Марыніч**, які лічыць, што цяперашнюю прамысловасць Беларусі **"дабілі да ручкі і ператварылі ў металалом"** і *"толькі змена існуючай улады можа даць дарогу рэальным рэформам і пераменам у Беларусі"*.

У мінскім форуме таксама прынялі ўдзел дэпутаты Палаты прадстаўнікоў **Валерый Фралоў і Уладзімір Парфяновіч**, палітолаг з Брэста **Анатоль Лысюк**, прэзідэнт Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук**, былы суддзя Канстытуцыйнага суда **Валерый Фадзееў**, старшыня ПЭН-цэнтра **Андрэй Дынько**, галоўны рэдактар газеты "Барысаўскія навіны" **Анатоль Букас** і іншыя. Не хапала толькі прадстаўнікоў улад, каб уступіць з імі ў дыскусію. Але, як выказаўся арганізатар форуму, былы міністр сельскай гаспадаркі **Васіль Лявонаў**, яны запрашалі кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава і каля дзесяці дзеючых міністраў, спікера Палаты прадстаўнікоў, але тыя "пабаяліся, відаць, зверыць нашы пазіцыі".

У мяне ад удзелу ў канферэнцыі засталося падвойнае ўражанне: з аднаго боку, прыемна паслухаць разумныя словы ад разумных людзей, а з другой — што з таго? Пагаварылі, папілі кавы і зноў апынуліся ў нашай нудотнай рэчаіснасці. І разумееш, што ў адсутнасці дыялога паміж прадстаўнікамі грамадскіх структур і ўладамі няма віны паважанага сп. Лявонава, арганізатара гэтага форуму, але ж ад гэтага не лягчэй.

Хочацца спытаць у таго ж Урала Рамдракавіча Латыпава: няўжо вы, інтэлігентны і разумны чалавек, так баіцеся сустрэцца з вашымі апанентамі і ў адкрытай дыскусіі даказаць сваю праўду? Альбо вы цудоўна ведаеце, хто ёсць хто і што ёсць што, але працягваеце адкрыта працаваць у "вертыкалі", зноў і зноў адмаўляючы грамадзянам Беларусі ў прадастаўленым ім Канстытуцыяй праве спытаць, чаму вы давялі Беларусь, як кажуць, да ручкі?

**Алесь СІЛІЧ.**

**ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ**

# Фролова проигнорировали...

*Лишь один депутат громко пел гимн во время открытия 6-й сессии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь — Сергей Костян.*

Молодые парни в кожаных куртках проверяли документы почти у всех, кто 2 апреля к десяти часам подтягивался к Дому правительства. Пришлось предъявлять документы даже некоторым депутатам, которых сотрудники службы безопасности плохо знали в лицо (не секрет, что отдельные парламентарии довольно редко появляются в Овальном зале или предпочитают сидеть там очень тихо, не высовываясь и не вступая в дискуссии). С чем связаны такие исключительные меры безопасности, никто толком объяснить не мог.

Первый день весенней сессии прошел без скандалов. Депутаты дружно проголосовали за включение в повестку дня весенней сессии 48 вопросов, еще 120 законопроектов пока находятся в разработке.

Депутат **Валерий Фролов** предлагал включить в повестку дня сессии парламентские слушания по итогам выборов в местные органы власти и говорил о необходимости внесения изменений в Избирательный кодекс Беларуси. Однако генерала поддержали лишь 15 депутатов из 92-х присутствующих в зале. Хотя, напомним, что во время выборов три депутата Палаты представителей — **Владимир Парфенович, Владимир Новосяд и Валерий Фролов** — воочию убедились в фальсификациях результатов волеизъявления граждан.

Председатель Палаты представителей **Вадим Попов** в своем выступлении заметил, что: *"одобрение на референдуме народами Беларуси и России Коституционного акта потребует комплекса законодательных решений для дальнейшего развития союзного строительства, деятельности правительства и парламента"*. Дата референдума еще официально не объявлена, однако факт, что он состоится, уже никто не отрицает. Кстати, Попов даже не сомневается, что Конституционный Акт будет ***одобрен***!.. Многие политологи предполагают, что на этом референдуме также может решиться вопрос об очередном продлении срока полномочий А.Лукашенко.

Впрочем, лучше о приятном: в пресс-центре Палаты представителей наконец-то завершился ремонт. Теперь там можно не только пресс-конференции проводить, но и торжественные приемы.

**Марина КОКТЫШ,**
**Валерий ШУКИН.**

**ЧУЛІ?**

# Перапалох

*Рэспубліканскі савет прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці вырашыў правесці апытанне сваіх членаў наконт жыцця і магчымай акцыі па абароне сваіх правоў. З'ява, як бачым, звычайная. Але яна, па словах прафсаюзных актывістаў, выклікала перапалох у начальства і ўлад.*

Зазначу, што кіраўніцтва прафсаюза накіравала ў свае нізавыя арганізацыі зварот, у якім, у прыватнасці, гаварыцца:

**"Вы задаволены сваёй зарплатай, матэрыяльным становішчам сваёй сям'і?**

**Мы — не!**

**Вы лічыце правільным планы павышэння ўзросту выхаду на пенсію?**

**Мы — не!**

**Вы падтрымліваеце перавод часткі сістэмы адукацыі і аховы здароўя на платную аснову?**

**Мы — не!**

**Вы будзеце мірыцца з пастаянным ростам цэн на прадукты, транспарт, лекі?**

**Мы — не!**

**Вы згодны з такім павелічэннем платы за жыллёва-камунальныя паслугі?**

**Мы — не.**

Неаднаразовыя звяртанні прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці да ўрада, прэзідэнта з прапановай падкарэкціраваць праводзімую сацыяльна-эканамічную палітыку на карысць чалавека працы, ігнаруюцца, а са старонак дзяржаўных газет, з тэлеэкрана гучаць бадзёрыя заявы аб стабілізацыі.

Савет прафсаюза па прапанове шэрагу прафкамаў прадпрыемстваў, абмеркаваўшы сітуацыю, прыняў рашэнне звярнуцца да членаў прафсаюзаў з пытаннем: **"Калі вы падзяляеце пазіцыю Рэспубліканскага савета, дык адкажыце, падтрымліваеце вы прапанову аб правядзенні акцыі пратэсту "Не — канчатковаму збядненню народа!". Акцыя павінна быць масавай, толькі тады можна дабіцца паляпшэння дабрабыту кожнага з нас. Так ці не?"**

Як бачым, прафсаюз праводзіць сваю звычайную работу, вывучае думку сваіх радавых членаў наконт акцыі пратэсту. Але, як паведамілі нам у прэс-службе савета прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці, апытанне выклікала вялікую незадаволенасць начальства. Названы зварот прафсаюза кіраўнікі заводаў "Калібр" і "Віцязь" забаранілі распаўсюджваць сярод рабочых. Намеснік міністра прамысловасці Генадзь Свідзерскі патрабуе ад кіраўнікоў прадпрыемстваў спыніць апытанне... Нягледзячы на гэта, шэраг працоўных калектываў, такіх як Мінскі прыборабудаўнічы завод, Маладзечанскі "Спадарожнік", Пружанскі завод радыёдэталяў, "Тэрмапласт" і іншыя, падтрымалі рашэнне аб правядзенні акцыі пратэсту. Відаць, гэта і непакоіць улады.

На нядаўняй нарадзе па ідэалагічнай рабоце Аляксандр Лукашэнка даручыў міністру прамысловасці Харлапу на працягу двух месяцаў вырашыць пытанне з кіраўнікамі галіновых прафсаюзаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці. Маўляў, нельга дазваляць ім уцягваць у "палітычныя авантуры працоўныя калектывы".

Дык што, змаганне з ростам цэн, платнымі паслугамі ў медыцыне, павышэннем камунальных плацяжоў — гэта "асабістыя палітычныя авантуры" Федыніча і Бухвостава? Дайце правесці апытанне, і тады стане вядома, чые гэта "авантуры": працоўных ці ўлад?

**Алесь ДРАБЧУК.**

ДЫСКУСІЯ

# Пра шык, «пшык» і беларускага Каштуніцу

**Аляксей МАРАЧКІН, мастак, сустаршыня аргкамітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі**

На Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі, які прайшоў 16 сакавіка гэтага года ў Доме культуры "Сукно", усё абышлося мірна і прыстойна. А каб кампенсаваць гэты "недахоп", 21 сакавіка была надрукавана "аплявуха" ў "Народнай волі". На першай старонцы паважанай газеты чытачу кідаліся ў вочы два загалоўкі, набраныя буйным кеглем: "Война" (аб падзеях у Іраку) і "Пшык..." (аб Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі). Аўтар артыкула-аплявухі, можна меркаваць, не назваў сваё сапраўднае прозвішча, а схаваўся пад псеўданімам "Усевалад Крыжак". Уступаць у бой з Крыжаком, выклікаць яго на Грунвальдскае поле не дужа хочацца. Але паколькі вастрыня ягонага заржавелага меча накіраваная на шматлікія харугвы даверлівага чытача, пераконваючы яго, што дэмакраты-інтэлігенты не здольныя ні на што, — хочацца з ім, мякка кажучы, не пагадзіцца. Пафас ягонага выступу непрыхаваны - за што інтэлігенты ні возьмуцца, у іх заўсёды атрымаецца пшык. Пагаворадь, пагаворадь і разыдуцца. На тым і скончыцца іхні імпэт. У недасведчанага чытача, які прывык да раскручаных афіцыйных мерапрыемстваў, калі з усіх рэгіёнаў па загадзе зверху збіраюцца "чэсныя" грамадзяне, натуральна ўзнікае думка пра няздольнасць нашай эліты вырашаць сённяшнія праблемы. Іншая справа, калі б з усіх раёнаў, буйных мястэчак і гарадоў па загадзя складзеным спісе, зацверджаным мясцовай вертыкаллю, на спецыяльна падрыхтаваных аўтобусах падкацілі тысячы дэлегатаў да Палаца рэспублікі, у крайнім выпадку да Палаца спорту, а не да невядомага ДК "Сукно", які месціцца далёка ад цэнтра горада, а перад акрыццём сходу выступіў кіраўнік краіны ды блаславіў на працу ўладыка Філарэт — гэта быў бы сапраўдны шык. А ўжо як бы накармілі! Не тое што дэмакраты-інтэлігенты, у якіх не хапіла на большае, як шклянку гарбаты са сціплым гамбургерам.

Крыжак на тое і крыжак, а не высакародны вой. Бой на старонках газеты вядзе па сваіх правілах. Яму няўцям, што пры сённяшнім рэжыме ў большасці людзей, акрамя ўсяго, пануе страх, што ў таго ж настаўніка, інжынера, які хацеў бы паўдзельнічаць у сходзе, сёння пустая кішэня. і што ніякі вертыкальшчык не аплаціць дарогу збяднеламу інтэлігенту. Больш за тое, зробіць усё, каб застрашыць, выклікаць недавер да гэтага мерапрыемства. У гэтым асабліва вызначыліся дзве вобласці — Гродзенская і Віцебская. А той, хто асмеліўся прыехаць на сход, думае як бы яшчэ паспець на апошнюю электрычку, дабрацца дадому, каб назаўтра без спазненняў пайсці на працу. Бо, бачыць Бог, калі будзе інакш, за яго дужа ніхто не заступіцца. А пазбавіцца працы, мізэрнага заробку так проста. і не "пастагнаць", як даводзіць Крыжак, прыехалі дэлегаты на Вялікі сход, а, як зазначыў у сваім звароце Васіль Быкаў, — параіцца, разабрацца, у якім свеце мы жывем, як выйсці з гэтага становішча. Эпітэтам усяго сходу, на маю думку, былі трапныя словы Рыгора Барадуліна: "Будзем — калі разбудзім".

Такое ўражанне, што Крыжак не быў на гэтым сходзе, бо адкуль ён узяў, што прынятая рэзалюцыя "бяззубая і нерашучая", не прыводзячы з яе аніводнай цытаты. Што ён разумее пад рашучасцюі Крыкнуць "гэць!" — і наперад? Смелы Крыжак, які пабаяўся назвацца сваім уласным прозвішчам, відаць, хоча, каб інтэлігенцыя ўзялася за калы і з крыкам рушыла на мясцовую "бастылію". Якраз не калы, а думка, мудрае слова — зброя інтэлігенцыі.

Наш чалавек падуладны слову. Гэтае закладзена, можа, з даўніх часоў. Ён верыць надрукаванаму, таму, што напісана ў газеце, сказана па радыё ці тэлебачанні. І ці не таму так спекулююць улады на гэтай веры. Кіраўнік краіны ў адным са сваіх выступаў зазначыў: мой народ — як тыя дзеці. А дзецям, дадамо ад сябе, пакажы цацку, паабяцай нешта — і яны будуць радыя. Адзінае, што страўнік не падманеш, ён жыве па сваіх законах. Але пры ўсім гэтым нашы людзі, інтэлігенцыя, нягледзячы на афіцыйную прапаганду, у большасці сваёй паважна адносяцца да бясспрэчных аўтарытэтаў. і слова Васіля Быкава, Радзіма Гарэцкага, Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна заўсёды адгукнецца ў іхніх сэрцах. Вось чаму першы Усебеларускі сход інтэлігенцыі даручыў аргкамітэту, які на сёння не склаў свае паўнамоцтвы, абраць Раду з гэтых знакавых для Беларусі асобаў, каб да іхняга слова прыслухоўваліся ўлады, каб яно запальвала, уздымала актыўнасць не толькі прадстаўнікоў інтэлектуальных прафесій, але і ўсяго народа. Асабліва гэта важна перад парламенцкімі выбарамі і выбарамі прэзідэнта краіны.

Галоўны недахоп Усебеларускага сходу, як заявіў Крыжак, — праблема беларускага Каштуніцы. На яго думку, не было б "пшыку", каб нехта выйшаў на трыбуну і абвясціў імя лідэра, вакол якога гуртавалася б нацыя. Слоў няма... Выбар такога лідэра — вельмі важная для ўсіх нас праблема. Хто, які чалавек прыйдзе на змену былому дырэктару саўгаса, сённяшняму кіраўніку краіны? Сапраўды, не трэба прыбядняцца. У нас ёсць такія людзі. і тут, каб не трапіць у расстаўленыя цянёты шматлікіх ініцыятыў, трэба моцна падумаць, з кім і куды мы ідзем. З практыкі апошніх выбараў лідэра краіны мы бачылі, як расцягвалі нашых інтэлектуалаў, аўтарытэтных людзей творчых прафесій па розных групах падтрымкі. На гэты раз мы, аб'яднаўшыся разам з Радай беларускай інтэлігенцыі, павінны вылучыць аднаго ці некалькіх кандыдатаў на пасаду кіраўніка краіны. Даводзіць праз сродкі масавай інфармацыі, што гэты чалавек варты даверу. Час ужо набліжаецца. На гэтым Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі без сур'ёзнай падрыхтоўкі нам нельга было безадказна абвясціць, "пракукарэкаць", дружна прагаласаваць і разысціся. Як кажуць у народзе, паспяшыш... Дастаткова насмяшылі ўвесь свет сваімі кандыдатамі ў прэзідэнты. Бо ёсць вялікая спакуса выскачыць наперад усіх, узняць хвалю вакол гэтай асобы, калатэчу за асваенне грошай, грантаў. І пайшло-паехала..

Пры падрыхтоўцы Сходу аргкамітэт адразу заявіў, што не чакае і не будзе дамагацца фінансавай падтрымкі з боку міжнародных арганізацый. Усё будзе зроблена сваімі сіламі, каб нас не папракалі, што зноў дапамог замежны дзядзька. і, як бачым, мы здолелі арганізавацца і правесці задуманае. Зараз пачынаецца будзённая праца. Фактычна Сход працягваецца, бо працягваецца праца аргкамітэта і ягоных камісій. У Сходзе бралі ўдзел і некаторыя партыі. Ніхто з арганізатараў не пасягаў на іхняе лідэрства. Сход не меў на мэце падмяніць тую ці іншую партыю, альбо, сабраўшыся разам, абвясціць, што якраз мы і ёсць тая адзіная сіла, здольная аб'яднаць усе партыі. Натуральна, кожны з нас перажывае тое, што адбываецца ў партыях, іх структурах. Пры сённяшніх, мякка кажучы, непаразуменнях між лідэрамі навідавоку ўнутраныя разборкі, якія затуманьваюць самае галоўнае — за што і супраць каго змагаемся... Яскравы прыклад гэтаму — 23 сакавіка, калі падчас заяўленага мітынгу-шэсця яшчэ раз пацвердзілася народная мудрасць — па асобным пруціку можна ўсё пераламаць, а звязанае ў адно цэлае — цяжкавата. Такія лідэры, арганізатары падобнага шэсця вельмі зручныя для ўлад. Адных збіраюць каля Чырвонага касцёла, другіх — ля галоўпаштамта, іншыя стаяць воддаль, на праспекце Скарыны. Бяры, хапай па адным. Амапаўцы, міліцыянты ажно шалеюць ад усведамлення сваёй сілы і беспакаранасці. Я быў сведкам, як нехта з гэтых цэрбераў накінуўся на маладога хлопца, які быў далёка ад галоўнай купкі людзей, толькі за тое, што трымаў у руках бел-чырвона-белы парасон. І калі на вачах у людзей амапаўцы ламаюць гэты парасон, нішчаць яго як злейшага ворага, то гэта сведчыць аб поўнай дэградацыі сілавых структур. Паводзіны такіх людзей не падлягаюць тлумачэнню. Напрыканцы 80-х — пачатку 90-х можна было зразумець, калі хапалі дзяўчыну толькі за тое, што ўгледзелі на ейнай куртцы бел-чырвона-белую палоску. Тады камуністы кідаліся, адчуваючы свой канец. А сёння... Адным словам, прыехалі...

Але вяртаемся да раней сказанага, а менавіта да Сходу. Крытыка (адмяжуемся ад савецка-бальшавіцкай тэрміналогіі — "здаровая", "канструктыўная") павінна быць. Яна неабходная, таму як змушае паглядзець на сябе збоку, не дае загадзя забранзавець і паверыць у сваю бязгрэшнасць.

Да мяне ў майстэрню часта заходзяць мае калегі. І калі я паказваю свой новы твор, нехта з іх, натуральна, дае парады, вызначае слабыя месцы на палатне, нейкія няўдалыя дэталі, так бы мовіць, наводзіць крытыку. "Каб толькі гэтае, — адказваю ім. — Я ж адчуваю і бачу, што тут зашмат хібаў". І гэта праўда... А вось калі хто-небудзь з іх мне скажа, што ўсё, што я раблю, гэта бездапаможнасць, не вартае ўвагі, я пакажу гэтым людзям на дзверы. Ведаю, што недасканалы, але не дазволю таптаць тое, што стварыў, падрываць веру ў самога сябе, у сваю творчасць.

Так і з "крыжаком". Для мяне ягоны выступ у газеце — гэта, як бы далікатней сказаць, пшык з непрыемным пахам. і я з задавальненнем пакажу яму на дзверы і выветру гэты пах з маёй хаты. Аднак кожны мае права на сваю думку. А можа, якраз і падзякаваць аўтару за тое, што справакаваў мяне на гэты допіс. Спадзяюся, што газета "Народная воля" дасць мне магчымасць на яе старонках выказацца, падзяліцца з чытачамі сваім поглядам з нагоды публікацыі Крыжака.




*17 сакавіка 2003 года: Усебеларускі сход інтэлігенцыі.*

**Фота IREX/ProMedia.**

## *У рэдакцыю «Народнай волі»*

Шаноўнае спадарства!

Не буду хаваць, тое, што замест аб'ектыўнага аналізу працы Усебеларускага сходу інтэлігенцыі вы ў сваім нумары ад 21 сакавіка вырашылі надрукаваць допіс ананіма Усевалада Крыжака, ды яшчэ на такім узроўні, нас вельмі засмуціла. Справа нават не ў змесце. Пра якую кансалідацыю, пра які канструктыў можна казаць, калі свае страляюць у спіну?

Так, была сярод удзельнікаў Сходу пэўная частка публікі, якая чакала, што ён возьме ды і выратуе Беларусь ці што ёй там прад'явяць ні больш ні менш як "беларускага Каштуніцу" ў цэлафане і каляровых стужках. А калі замест гэтага ёй прапанавалі "прыпахаць": паслухаць выступы, падумаць, самім нешта прапанаваць, гэтая публіка залямантавала і збегла. Што тут зробіш? Ці можна верыць у шчырасць такіх патрабаванняў, калі вядома, што дзеля з'яўлення сапраўднага Каштуніцы спатрэбілася, каб Югаславію адбамбілі войскі НАТО? Ды і да таго сітуацыя там была, мякка кажучы, адрознай ад нашай: Сербія была пакрытая сеткай незалежнага кабельнага тэлебачання, там спакойна працавала некалькі незалежных радыёстанцый, у Чарнагорыі дзяржаўнае тэлебачанне займала незалежную ад рэжыму Мілошавіча пазіцыю,



мела свой спадарожнікавы канал, праз які вяшчала на ўсю Югаславію. У краіне свабодна дзейнічалі шматлікія недзяржаўныя аб'яднанні, якія мелі не толькі свае офісы, а таксама памяшканні, дзе маглі свабодна збірацца разам сотні чалавек для правядзення разнастайных імпрэзаў. І гэта — толькі некалькі фактаў, прыведзеных наўскідку, каб зразумець, што наша сітуацыя мае свае асаблівасці і шлях у нас будзе свой. Менавіта гэтаму — аналізу сітуацыі і пошуку свайго шляху — і быў прысвечаны наш Сход. Менавіта гэтым — мысленнем — і павінна займацца інтэлігенцыя, бо само гэтае слова паходзіць ад слова "інтэлект", што азначае — розум. Бо без належнага асэнсавання ўсе словы і дзеянні зноў ператворацца ў безадказныя "пшыкі" кшталту таго, які вы вырашылі транслявань на ўсю краіну, ды яшчэ прадставілі яго як "народную" ацэнку нашага Сходу.

Калі рэдакцыя "Народнай волі" па нейкіх прычынах не ў стане даць прафесійны аналіз і каментарый таго, што было зроблена на Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі, прапануем змясціць на старонках газеты хаця б Рэзалюцыю і некаторыя з выступаў, якія на ім прагучалі. Няхай народ Беларусі зробіць свае высновы сам, грунтуючыся на сапраўдных дакументах нашага Сходу, а не на "пшыканні" ананімаў, за якімі б гучнымі мянушкамі яны ні хавалі свае сапраўдныя імёны.

А Беларусь мы ратаваць будзем, можаце не хвалявацца. Спадзяюся, гэта будзе рабіцца з дапамогай вашай газеты, а не насуперак ёй.

**З вялікай павагай і найлепшымі пажаданнямі чытачам "Народнай волі" —**

**Уладзімір КОЛАС, сустаршыня арганізацыйнага камітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі.**

# «Незалежная Беларусь — свабоднае і заможнае грамадства»

*Рэзалюцыя Усебеларускага сходу інтэлігенцыі*

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, сабраліся напярэдадні выбітнай падзеі — 85-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі — на свой першы Усебеларускі сход, каб асэнсаваць сённяшні стан грамадства і краіны і акрэсліць шляхі іх далейшага развіцця.

Наша родная Беларусь перажывае глыбокі сістэмны крызіс.

Стратэгічны курс улад на каманднуо сістэму кіравання і падаўленне дэмакратычных свабод прывёў краіну да міжнароднай ізаляцыі і паставіў яе эканоміку на мяжу краху.

Прамысловыя прадпрыемствы даводзяцца да банкруцтва. У катастрафічным стане сельская гаспадарка, якая без належнай аддачы паглынае велізарныя матэрыяльныя і грашовыя рэсурсы. Неразумная, грабежніцкая падатковая палітыка і адміністратыўны ўціск вядуць да скарачэння колькасці прадпрыемстваў прыватнага сектару.

Няўхільна пагаршаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. Сёння за рысай беднасці апынулася ўжо больш за палову насельніцтва. Расце беспрацоўе. Скарачаецца фінансаванне чарнобыльскіх сацыяльных праграм, адсутнічае рэальная дапамога насельніцтву па абароне ад радыяцыі. Па працягласці жыцця краіна апусцілася за мяжу, пасля якой пачынаецца выміранне нацыі.

Пастаянна скарачаецца фінансаванне айчыннай адукацыі, навукі, культуры. Ідзе мэтанакіраваны наступ на беларускую мову. Працягваецца сыход з краіны найбольш кваліфікаваных кадраў, асабліва з ліку моладзі.

У краіне парушаюцца асноўныя прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека, адсутнічае вяршэнства закона, рэальны падзел і ўзаемакантроль улад. Адсутнасць незалежнага суда і адвакатуры не дазваляе забяспечыць гарантаваных Канстытуцыяй правоў. Пераследу і рэпрэсіям падвяргаюцца тыя, хто выказвае альтэрнатыўныя думкі і прытрымліваецца адрозных ад улады пазіцый. Пазбаўляюцца волі журналісты, знікаюць палітыкі.

Асаблівую небяспеку нясе за сабой непрадуманае развіццё адносін з Расіяй. За гучнымі дэкларацыямі аб братэрстве і партнёрскіх адносінах, пад прыкрыццём стварэння віртуальнай "саюзнай дзяржавы" хаваецца прамая пагроза паглынання эканомікі Беларусі расійскім алігархічным капіталам, знішчэння яе суверэнітэту, што з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і норм міжнароднага права.

У гэтай сітуацыі многае залежыць ад інтэлігенцыі, ад яе мужнасці і прынцыповасці. Аднак, на жаль, многа сярод нас тых, хто займае прыстасавальніцкую пазіцыю, церпіць ганебную хлусню афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, злачынныя маніпуляцыі на выбарах, маўчыць, калі пераследуюць калег і суайчыннікаў.

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія сабраліся на Сход з усёй Беларусі, заклікаем прадстаўнікоў усіх інтэлектуальных прафесій, усіх грамадзян Беларусі, праявіць цвёрдасць, грамадзянскую свядомасць і волю, скансалідаваць намаганні грамадства па выхадзе з крызіснай сітуацыі.

Мы выказваем рашучы пратэст супраць любых спроб здачы незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны, дыскрымінацыі беларускай мовы і заяўляем пра сваю гатоўнасць бараніць гэтыя святыя для кожнага грамадзяніна Беларусі каштоўнасці ўсімі магчымымі сродкамі і спосабамі.

Мы выступаем катэгарычна супраць працягу паўнамоцтваў цяперашняга кіраўніка Рэспублікі Беларусь пасля 2006 года.

Мы абвяшчаем пра намер зрабіць усё, каб выбары новага Парламента ў 2004 годзе і новага Прэзідэнта ў 2006 годзе адбыліся па новым выбарчым кодэксе, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, без адміністрацыйнага ціску на выбаршчыкаў і кандыдатаў, без махінацый і падтасовак падчас галасавання, каб народ Беларусі змог зрабіць свабодны і асэнсаваны выбар.

Мы заклікаем улады Рэспублікі Беларусь звярнуцца да вопыту дэмакратычных пераўтварэнняў у цывілізаваных краінах, распачаць канструктыўны дыялог з прадстаўнікамі ўсіх палітычных плыняў грамадства. У якасці першага кроку на гэтым шляху прапануем прыняць неадкладныя меры да ўсебаковага, дакладнага і выніковага расследавання спраў аб знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зміцера Завадскага, Юрася Корбана, перагледзець судовую справу навукоўца Юрыя Бандажэўскага, вызваліць зняволеных журналістаў Віктара Івашкевіча і Паўла Мажэйку, зняць з іх, а таксама з журналіста Міколы Маркевіча судзімасць.

Мы заклікаем кіраўнікоў і сяброў палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый спыніць узаемныя папрокі, пераадолець раз'яднанасць і перайсці да ўзгодненых дзеянняў, згуртавацца дзеля вырашэння галоўнай задачы — вярнуць Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця, забяспечыць ёй годнае месца ў сям'і цывілізаваных і свабодных народаў Еўрапейскага Саюза.

Усведамляючы сваю асабістую адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і разумеючы неабходнасць пошуку арганізацыйных шляхоў для выканання пастаўленых задач, мы надаём Арганізацыйнаму камітэту Усебеларускага сходу інтэлігенцыі паўнамоцтвы каардынатара нашай дзейнасці, даручаем яму прадстаўляць нашыя інтарэсы ў Беларусі і за яе межамі, збіраць нас на Сход у выпадку крытычнай для беларускага грамадства сітуацыі, а таксама сфарміраваць Раду беларускай інтэлігенцыі з ліку найбольш выбітных прадстаўнікоў грамадства.

*Мінск, 16 сакавіка 2003 г.*

# Ад рэдакцыі

**Друкуючы артыкул Усевалада Крыжака аб Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі, рэдакцыя "Народнай волі" цалкам усведамляла, што зробленыя аўтарам ацэнкі і высновы не спадабаюцца пэўнай частцы тых, хто ладзіў яго работу. Але што зробіш, калі такі лёс незалежнай газеты — прадстаўляць грамадскасці розныя думкі, розныя пункты гледжання.**

**Алесь Марачкін і Уладзімір Колас, лісты якіх мы надрукавалі, лічаць, што мерапрыемства прайшло ўдала. Лічыць так іх права. Але ж шмат удзельнікаў Сходу не задаволены вынікамі яго работы. Сярод простых людзей нямала тых, каго таксама напаткала расчараванне. Аб гэтым сведчаць шматлікія тэлефанаванні і лісты ў рэдакцыю.**

**Калі ўзяць за крытэрый філіпікі спадароў Марачкіна і Коласа, то ўсе, хто публічна выставіў дрэнную адзнаку рабоце форуму і яго арганізатараў, на гэта права не маюць. Газета з такім падыходам пагадзіцца не можа, бо па сваёй сутнасці ён міжволі нагадвае падыходы, якія ўжо колькі гадоў навязвае беларускаму грамадству Лукашэнка. З лёгкай рукі яго самога і ягоных памагатых зімоўскіх, пракопавых, кавалёвых, чаек ды іншых усе, хто гучна крытыкуе палітыку беларускага рэжыму, адразу трапляюць у шэрагі ворагаў, агульнае імя якім — апазіцыя.**

**На жаль, гэта вялікая праблема нацыянальна-дэмакратычнай часткі беларускай эліты. Лік яе актыўных прыхільнікаў не толькі не расце, а нават памяншаецца. І ў першую чаргу таму, што лідэры эліты наступаюць на адны і тыя ж граблі. Імкненне да плюралізму, да іншадумства ў дэмакратычных шэрагах імі трактуецца як здрада, як аплявуха. Танальнасць лістоў Марачкіна і Коласа дае падставу меркаваць, што і яны, падобна, не пазбеглі гэтай хваробы.**

**Як бы там ні было, але "Народная воля" і надалей будзе працягваць знаёміць грамадскасць з рознымі поглядамі на тыя ці іншыя працэсы і падзеі, што адбываюцца ў нашай краіне. Плюралізм падыходаў і ацэнак пры ўмове захавання агульнай нацыянальна-дэмакратычнай лініі публічнага голасу газеты — гэта прынцыповая пазіцыя яе галоўнага рэдактара, яе творчага калектыву.**

**І яшчэ некалькі заўваг.**

**Спадару Марачкіну і Коласу не падабаецца тое, што аўтар "артыкула-аплявухі схаваўся пад псеўданімам". Супакойцеся, шаноўныя! Чалавек, які ўзяўся за пяро, разам з вамі знаходзіўся ў зале ДК "Сукно". А тое, што аўтар артыкула паставіў свой псеўданім, гэта не значыць, што ён не мае маральных ці юрыдычных падстаў выказаць свой пункт гледжання. Выкарыстанне ў публічных (газетных) выступленнях псеўданіма — гэта цалкам дэмакратычная норма. Аўтар мае права публічна выкласці сваю пазіцыю, захоўваючы пры гэтым таямніцу сваёй асобы. Апошняе ёсць прынцып, які гарантуе незалежнасць і свабоду яго меркаванняў. Прасцей за ўсё адкрыта сказаць праўду-матку непрыяцелю. Складаней сказаць яе ў вочы тым, хто стаіць на адным баку з табой. Нездарма ж дэмакратычныя працэдуры прадугледжваюць тайнае галасаванне. У любым больш-менш дэмакратычна функцыянуючым калектыве, каб забяспечыць незалежнасць асобнай волі, пры публічным (праз сходы) вырашэнні сур'ёзных пытанняў, асабліва калі існуюць разыходжанні, дамагаюцца тайнага галасавання.**

**Сваю асноўную крытычную заўвагу Усевалад Крыжак сфармуляваў цалкам канкрэтна і зразумела: "Размовы аб галоўным, аб тым, ШТО і ЯК трэба рабіць для аб'яднання дэмакратычных сіл, палітычных партый у адзіны кулак, на з'ездзе не атрымалася. Не атрымалася дыялога інтэлігенцыі з палітыкамі і партыйнымі лідэрамі, які павінен быў стаць галоўным зместам форуму".**

**У гэтай сувязі варта задаць шэраг пытанняў. Чаму спадары Марачкін і Колас у сваіх допісах не прывялі аргументаў і фактаў, якія абвяргалі б прыведзенае сцвярджэнне? Чаму шаноўныя сустаршыні аргкамітэта Усебеларускага сходу інтэлігенцыі не патлумачылі чытачам "Народнай волі", з-за чаго ў яго (аргкамітэта) складзе адбыўся перакос на карысць пераважна прыхільнікаў адной грамадска-палітычнай плыні? Чаму так здарылася, што прадстаўніцтва прыхільнікаў іншых сіл у гэтым камітэце аказалася мінімальным? Ці не гэта сталася адной з прычын таго, што дыялога інтэлігенцыі з асноўнымі палітычнымі, грамадскімі плынямі краіны не адбылося, як не адбылося сур'ёзнай размовы аб шляхах яднання дэмакратычных сіл краіны? Якімі крытэрыямі кіраваліся арганізатары Сходу, калі вызначалі сцэнарый выбараў дэлегатаў? Чым яны могуць пацвердзіць іх прадстаўнічасць? Чаму, скажам, на сход сталічнай інтэлігенцыі быў запрошаны Сідараў, а не Пятроў? Наколькі цяпер законныя паўнамоцтвы аргкамітэта, зацверджаныя меншасцю застаўшыхся да канца сходу дэлегатаў? Ці не дае гэтая акалічнасць падстаў лічыць яго (аргкамітэта) сябраў самазванцамі? У рэшце рэшт, у чым канкрэтна заключаецца акрэсленне высокім сходам шляхоў далейшага развіцця Беларусі, якое дэкларавана ў прынятай рэзалюцыі?**

**На жаль, гэтыя пытанні спадары Марачкін і Колас у сваіх допісах абмінулі. Магчыма, перашкодзіла далікатнасць. А магчыма, высокія эстэтычныя разважанні пра "пшык з непрыемным пахам" засланілі думкі аб галоўным. А можа, разгадка ў іншым — па-дзіцячаму шчырым споведзе Аляксея Марачкіна? "Ведаю, што недасканалы, але не дазволю таптаць тое, што стварыў, падрываць веру ў самога сябе, у сваю творчасць".**

**З гэтым сцвярджэннем вядомага мастака рэдакцыя не спрачаецца. Як не спрачаецца са сваім аўтарам Усеваладам Крыжаком: "Нядзельны ўрок заключаецца ў тым, што беларуская інтэлігенцыя яшчэ не займела свой голас. Але яна, у рэшце рэшт, дала зразумець, што не збіраецца далей маўчаць".**

# Отчаяние рабочих

*После еженедельных цеховых забастовок на АО "Орша", которое специализируется на выпуске швейных машин, прекратили работу все цеха и службы предприятия. Работники вышли к административному зданию с плакатами и требованиями выплатить заработную плату за последних три месяца.*

2 апреля 12 лет назад рабочие этого предприятия участвовали в блокаде железной дороги в Орше. Сегодня опять звучат призывы повторить события 1991 года.

Положение на заводе катастрофическое. Здесь работает 1950 человек. Перед местными выборами работникам выплатили зарплату за декабрь прошлого года и поменяли директора, который обещал исправить положение. Но обстановка накалилась еще больше. Более двухсот работников подали иски в суд о выплате отпускных, которых не могут дождаться почти девять месяцев. Суд принял решение в пользу истцов, но решение не исполняется из-за отсутствия денег.

Приступать к работе в ближайшее время пока никто не собирается, но и плана действий тоже нет.

**Виктор АНДРЕЕВ.**

## З ломікам за ежай

Міліцыя не ў стане стрымаць хвалю рабаванняў, якая ўжо не першы год коціцца па сельскіх гандлёвых кропках Віцебшчыны. Аператыўнікі, ацэньваючы памеры скрадзенага, звычайна шукаюць сляды цэлай злачыннай групы, але часцей за ўсё аказваецца, што "набег" на краму робіць адзін чалавек.

Да прыкладу, нядаўна нехта збіў ломікам замок на дзвярах крамы ў вёсцы Вярхоўе Аршанскага раёна і забраў даволі вялікую колькасць ежы і выпіўкі. У выніку следчых дзеянняў міліцыянеры затрымалі мясцовага беспрацоўнага, які патлумачыў, што вельмі хацеў выпіць і закусіць.

Летась толькі ў адным Аршанскім раёне была абрабавана кожная трэцяя крама ў сельскай мясцовасці. І сёлета сітуацыя не змянілася. За студзень-люты злодзеі наведалі больш за 20 сельскіх крамаў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Здай зброю!

З 1 па 30 красавіка ў Брэсцкай вобласці праводзіцца месячнік па добраахвотнай здачы зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў, што захоўваюцца незаконна. Пры гэтым уся добраахвотна здадзеная зброя вызваляецца ад адміністрацыйнай альбо крымінальнай адказнасці, прадугледжанай заканадаўствам.

Акцыя праводзіцца ўжо трэці год сумесна супрацоўнікамі УУС і ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці і дае добрыя вынікі. Напрыклад, летась у рамках месячніка грамадзяне добраахвотна здалі больш за 40 адзінак рознай зброі; 32 адзінкі, што захоўваліся незаконна, былі канфіскаваныя.

Паводле інфармацыі УУС, сёлета зброю добраахвотна здалі 97 жыхароў Брэсцкай вобласці.

На працягу студзеня-сакавіка чатыры жыхары вобласці скончылі жыццё самагубствам, выкарыстоўваючы незарэгістраваную зброю.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

# 900 рублей в день на существование и достойное развитие

*"Человек, его права, свободы и гарантии их реализации являются высшей ценностью и целью общества и государства. Государство ответственно перед гражданином за создание условий для свободного и достойного развития личности".*

Так с пафосом возвещает статья 2 Конституции Республики Беларусь (в редакции 1996 года). Звучит красиво, но в реальной жизни гражданин Беларуси ответственности государства за создание условий для свободного и достойного развития личности не ощущает.

В редакцию потоком поступают письма о невыполнении государством своих обязанностей перед гражданами. Особенно наплевательски относится белорусское государство к детям...

65-летняя Тамара Тимофеевна Власенко из Буда-Кошелево, потеряв всякую надежду на помощь местных государственных структур, обращается через газету "Народная воля" к министру внутренних дел с просьбой "выбить от администрации Могилевского УЖ 15/15 справку о заработке" отца ее внучек, отбывающего наказание в этом, подведомственном Владимиру Наумову тюремном учреждении.

Марина и Катюша не виноваты в том, что папа вот уже шесть лет уклоняется от исполнения своих родительских обязанностей. Именно за невыполнение конституционных обязанностей (статья 32) их отца Пигунова Михаила Николаевича суд отправил на тюремные нары.

Только ведь о торжестве справедливости говорить не приходится. Девочкам надо кушать, одеваться и как-то развиваться. А за какие шиши? Мама получает 124 тысячи. 45 уходит на оплату жилья. Остается по 900 рублей в день на душу.

Как жить, когда ни алиментов, ни пособия на детей мама не получает. А не получает потому, что подчиненные генерала Наумова игнорируют неоднократные обращения с просьбой выслать справку о том, что алиментов от осужденного М.Пигунова не поступает.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

*P.S. "Народная воля" надеется, что министр В.Наумов не оставит Марину и Катю без средств к существованию.*

*Письмо их бабушки, если потребуется, редакция направит в соответствующее ведомство.*

